Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

22 – 28 МАЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ

№21 (161)

АДНА ЗЯМЛЯ

ПАДПІСКА - 98

## Чытае не толькі Шурык...



**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**
**на месяц - 12 тыс.руб.; 3 месяцы - 36 тыс.руб.; 6 месяцаў - 72 тыс.руб.**

ВІЛЕЙКА

## Распрацоўваецца маладзёжная палітыка

У Доме культуры сабраліся першыя і лепшыя – работнікі розных аддзелаў гарвыканкома на чале з мэрам **Пятром Юдо**, дырэктары, выкладчыкі вучылішчаў і школ, вучні і навучэнцы. Тэма выхавання моладзі абмяркоўвалася грунтоўна.

На сустрэчу прыйшоў нават свяшчэннік **Сямён Мацюх**. А вёў дыялог загадчык аддзела адукацыі **Яўген Кулінковіч**. Прысутныя (за 100 чалавек) па групах працавалі над шасцю праграмамі аб культуры, прававых адносінах у школе, сям'і, здаровым ладзе жыцця. Сярод вучняў канструктыўнасцю вылучаліся гімназісты **Аляксандр Нізгайла і Максім Цімашоў, Ірына Балыка** з СШ №4.

Цяпер ідзе апрацоўка матэрыялаў, якія і складуць аснову маладзёжнай палітыкі ў горадзе.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## Адкрыццё варот

У хуткім часе сталічныя яўрэі змогуць наведваць новую сінагогу, закладка якой адбылася ў аўторак па вул. Крапоткіна. На ўрачыстай цырымоніі "Адкрыцця варот" прысутнічалі прадстаўнікі цэнтральнай сінагогі ў Беларусі і Мінскай яўрэйскай абшчыны.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ЛЕБЕДЗЕВА

## Назад у мінулае

У мястэчку з'явіліся новыя блакітныя шыльды з назвамі вуліц. Апынуўшыся тут, нібы вяртаешся назад у мінулае. Асабліва, калі пройдзеш з вуліцы Савецкай на "50 год ВЛКСМ" і звернеш з завулка Піянерскага на вуліцу Камуністычную.

*Алесь КАНЧАНСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Рыхтуйся, аўтааматар!

У кіраўніка мясцовай дзяржаўтаінспекцыі **Генадзя Іванова** ёсць падставы для хвалявання. Сёлета было ўжо шэсць аварый, дзе загінулі столькі ж чалавек. Большая частка здарэнняў адбылася з-за няспраўнасцяў аўтамабіляў.

Цяпер падчас тэхагляду транспартных сродкаў прыватных аўтаўладальнікаў інспектары больш прыдзірліва і дэталёва аглядаюць іх. Таксама асаблівая ўвага будзе ўдзяляцца веданню вадзіцелямі правілаў праезду чыгуначных пуцей, захаванню бяспечнай хуткасці.

*Тарэса КУМІШЧА.*

АШМЯНЫ

## У адрамантаваных крамах кілбасы смачнейшыя

Будаваць новыя крамы ў нестабільны фінансавы час рызыкуюць адзінкі і толькі тыя, хто гандлюе ў буйных гарадах. У райцэнтрах, накшталт Ашмянаў, апошнім часам займаюцца рамонтам. Як правіла, у стылі "еўра".

Тут не так даўно змянілі сваё аблічча фірменная крама грамхарчу "Ивушка" і дзяжурны "Світанак". Акрамя змены інтэр'еру, у гэтых гандлёвых пунктах павялічылася грашовае абарачэнне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Грошы на ставок

Музей М.-К. Агінскага, што ў Залессі, - філіял "Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў". Нечакана ён сутыкнуўся з вострай праблемай.

Дырэктар філіяла **Уладзімір Ліхота** расказаў, што на тэрыторыі музея неабходна зрабіць ачыстку става, бо той знаходзіцца ў запушчаным стане. Сваіх сродкаў няма, таму звярнуліся ў Гродзенскі абласны камітэт па экалогіі. Там станоўча паставіліся да гэтага і выдзелілі 300 мільёнаў рублёў. Праўда, пакуль толькі на паперы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

КАМАНДЗІРОЎКА

**У Светлагорска шмат агульнага з Маладзечнам. Маладыя гарады. Шмат інтэрнатаў для рабочых і моладзі. Дыскатэкі. Бары. Маладзечна з гонарам адзначае сваю гадавіну. У Светлагорска падстаў для весялосці няма**

# СНІД у кожнай вёсцы




СВЕТЛАГОРСК. Два гады, як тут пачаўся адлік ВІЧ–інфіцыраваных. Сёння ў горадзе з 75-тысячным насельніцтвам зарэгістраваны 1260 насіцеляў смяротнага віруса. У кожнай з 25 вёсак раёна ён таксама знайшоў прапіску.

Намеснік галоўнага ўрача тэрытарыяльна–медыцынскага аб'яднання **Святаслаў Самошкін** гаворыць, што пайшла другая хваля інфекцыі. У горадзе працуюць дзве недзяржаўныя праграмы (коштам на 73 тыс. долараў): аказваюць псіхалагічную кансультацыйную дапамогу сем'ям інфіцыраваных. Адкрытыя пункты даверу, дзе наркаманы могуць абмяняць скарыстаныя шпрыцы на новыя. На вуліцах - плакаты антыснідаўскай тэматыкі. Прэзерватывы прадаюць ва ўсіх гандлёвых пунктах, у гасцініцы – кругласутачна. Аднак кола інфіцыраваных пашыраецца.

Ад пачатку года выяўлена толькі 40 палавых кантактаў, якія прынеслі ВІЧ. У такой надзвычайнай сітуацыі працуюць школы, прадпрыемствы. У горадзе шмат кветак, сонейка, усмешак.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

КНІГІ

## The Japan Foundation беларусам дапамог

***АСТРАВЕЦ. "Беларусь – Расія – Японія. Матэрыялы Першых Астравецкіх краязнаўчых чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча" – так называецца кніга серыі "Беларусіка", якая нядаўна пабачыла свет. Зборнік складаецца з трох частак і распавядае пра першага консула Расіі ў Японіі, які нарадзіўся, жыў у вёсцы Малі і пахаваны на Астравеччыне. Тут друкуюцца краязнаўчыя даклады па гісторыі, культуры астравецкай зямлі, артыкулы пра беларуска–японскае грамадска–культурнае супрацоўніцтва.***

Зборнік можа стаць добрым дарадцам для людзей, апантаных гісторыяй Астравеччыны, бо ўтрымлівае мноства цікавых звестак пра жыццё і дзейнасць **Іосіфа Гашкевіча**, паэта **Менке Каца**, які нарадзіўся ў Міхалішках, ураджэнца Тронікаў мастака **Мар'яна Богуша–Шышку**, братоў пісьменніка, кампазітара і грамадскага дзеяча **Альбіна Стаповіча** і паэта **Казіміра Сваяка** (ксяндза **Канстанціна Стаповіча**) і іншых.

Фінансавую дапамогу ў выданні 1000 асобнікаў зборніка аказалі Астравецкі райвыканком, ТАА "Маладзечнажалезабетон", Беларускі народны банк і The Japan Foundation.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ЗДАРЭННІ

Ліхтары пажарных не маглі прабіць дымавую завесу

## "Зеніт" не згарэў

***ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні адзін з рабочых дзён на заводзе пачаўся з ЧП. Зборачны цэх, што на 6–м паверсе, раптоўна і імгненна запоўніўся густым чорным дымам. На той момант запасныя выхады былі зачыненыя, і рабочыя ўтварылі натоўп на лесвічных пляцоўках.***

Пажарных выклікалі, але ніхто іх не сустрэў. Дарэчы, святла ў цэху не было, а ліхтары тых жа пажарных прабівалі завесу толькі на паўметра.

Зборачны пажаранебяспечны. Там шмат гаручых вадкасцяў, і ўвесь ён пераплецены паветраводамі. Калі б трубы лопнулі, дым хутка раздзьмуўся па корпусе.

Пажарныя, на чале з начальнікам атрада **Сяргеем Мандрыкам**, адразу заняліся эвакуацыяй і пошукам ачага. Як потым высветлілася, у вялікай сметніцы задыміла пластмаса. Абышлося без ахвяраў і моцнага атручвання.

Інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер** гаворыць, што ўзгаранне на «Зеніце» - ЧП. Прадпрыемства на асаблівым уліку і знаходзіцца пад штодзённым кантролем.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



*Ліна, Маладзечна, 1 год і 10 месяцаў, рост, вагу вызначыць нескладана.*

*Любіць танцаваць і гучна спяваць: «Ла-ла-ла!» Напэўна, стане артысткаю.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА БУДУЧАЙ ЗОРКІ ЭСТРАДЫ.

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-20.*

## Прыгавораныя, альбо СНІД па-амерыканску

***У Цэнтральнай Аёве дзейнічае спецыяльны антыснідаўскі праект. На мэце асацыяцыі ў Дэ Мойне – работа з інфіцыраванымі і хворымі, каб тыя жылі паўнацэнным жыццём. Тут дапамога фінансавая (да аплаты рахункаў кліентаў), падтрымка ў жыццёвых сітуацыях, накіраванне да канкрэтных медыкаў, якія б змаглі аказаць найлепшую дапамогу. І, натуральна, прафілактыка.***

Уразіў узровень псіхалагічнай работы. Хворыя ведаюць, што неўзабаве памруць, але медыцына дапамагае ім жыць усё долей і долей, таму акцэнт робіцца на жыццё. І тут вялікая роля належыць цэрквам, хаця дапамагаюць не ўсе (некаторыя, прыкладам, не шануюць гомасексуалістаў, а сярод іх якраз шмат ВІЧ–інфіцыраваных); часцей дапамагаюць сем'і.

З 1991 года асацыяцыя працуе з 500 кліентамі. Цяпер, як мяркуецца, іх павінна быць каля 2000. Адпаведна вырас бюджэт – ад $50000 да $700000. Кліенты–наведвальнікі асацыяцыі могуць не паведамляць пра сябе ўсю інфармацыю. Нават урачу ці паліцэйскаму. Дарэчы, амерыканцы не абавязаныя здаваць тэст на ВІЧ, але наўмыснае заражэнне хваробай іншых кваліфікуецца, як замах на забойства.

Сярод прабывальнікаў ёсць жанатыя, у аднаго – 8–месячнае інфіцыраванае дзіця. Па вечарах збіраюцца разам людзі, у асноўным, ад 20 да 50. Хаця ёсць і 87–гадовая бабулька. Многія ўсё ж не маюць сем'яў, таму падобныя сустрэчы замяняюць ім стасункі з роднымі, даюць магчымасць зносінаў.

Хворыя на СНІД пагадзіліся на сустрэчу з нашай групай, але паставілі дзве ўмовы – ніякіх здымкаў і адсутнасць амерыканскіх грамадзян. Прыйшлі з дзесятак чалавек. Уразілі яны нас ад самага пачатку – аптымізмам, гумарам. Асабліва адзін, які прадстаўляўся першы:

– Я рыхтую людзей да пахавання (пра сваю работу). Фізічна, лічу, здаровы – хіба, мусіць, на галаву хваравіты?

Былі тут мастак, работнікі тэатра і тэлефоннай кампаніі, ветэрынар. Адныя хварэюць 2–3 гады, іншыя 10, нават 13 год. Адпаведна і адчуваюць сябе па–рознаму. Яднаюць усіх сумнаватыя вочы. Хаця адчувалася, што хворыя радыя выгаварыцца нам, пабочным людзям.

– Адразу была дэпрэсія, цяпер – крыху медыцыны, крыху настрою.

– Калі абвастрэнне хваробы – куру марыхуану.

На апошняе, дарэчы, адразу пачулі:

– Ты, мусіць, часта хварэеш!

Вось яшчэ меркаванні:

– Калі саслужыўцы даведаліся пра маю хваробу, то не карысталіся пасля мяне камп'ютэрам, туалетным пакоем. Было ніякавата, але з 1986–га настрой змяніўся.

– Два гады таму я паміраў. Але новая медыцына з'явілася своечасова для мяне.

- Адразу адчуў псіхалагічны ўдар ад ізаляцыі. На футболцы я напісаў: "Ціха – смерць!"

– Я раззлаваны. Кажуць, што ёсць медыкаменты, але на мяне яны не дзейнічаюць.

– Спадзяюся пражыць яшчэ год з 10. Гэта змяніла маё стаўленне да жыцця.

– У мяне анкалогія і стан здароўя пагаршаецца. Са СНІДам можна было б жыць ды жыць.

– Я меў нешчаслівае каханне, думаў пра самазабойства. Вёў машыну і хацеў скіраваць яе з абрыву ў рэчку, але ў салоне быў мой сабака – ён чым вінаваты? Затым падумаў, што магу заразіцца на СНІД, каб памерці. Аднак калі даведаўся пра сваю хваробу, хацеў было з даху скочыць.

– Пра мяне гавораць, што выглядаю лепей, чым да хваробы. Цяпер мне 28, а звольнілі з турмы, дзе працаваў, у 23. Без абвяшчэння прычыны, але і так зразумела.

– 14 год, як мяне заразілі, але ўвесь час адчуваю сябе нармальна. Толькі год таму пачаў прымаць таблеткі. У снежні курс скончыўся – я зноў у парадку.

– Цяпер я магу ацаніць, як падае снег.

Многія маюць свае спадарожныя хваробы, якія працякаюць цяжэй "звычайнага". Але выдзелілі яны і спецыфічнае для СНІДу – частую стомленасць, прагалы ў памяці, страўнікава–кішэчныя расстройствы, пастаяннае пачуццё страху.

За медыцыну – урачоў, таблеткі (адзін прымае іх 42 штукі штодня) – звычайна ніхто не плаціць. $3300 штомесяц пакрывае страхоўка, дапамагаюць дабрачынныя арганізацыі.

Без праблемаў, часам нават з ахвотай, хворыя адказвалі на пытанні пра пачуцці да тых, ад каго атрымалі страшную хваробу.

– Злосць. Але раней.

– Я ведаю гэтую жанчыну. Ведаў, што яна хворая, але не мог сябе кантраляваць, бо быў п'яны. Не разумею толькі яе – чым я так вінаваты перад ёю?

– Той чалавек мёртвы. Яго смерць стала падарункам на мой дзень нараджэння. Гэты чорны помсціў белым.

– Гэта мяне не цікавіць.

На развітанне кожнаму з нас падарылі чырвоную стужку – эмблему (казалі, што міжнародную) хворых на СНІД, па якой яны могуць пазнаць адзін аднаго. Што падалося нечым падобным на нумар у канцлагеры.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 13.05 | 20.05 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 86 | **90** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 253,2 | **232** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 78 | **84,7** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 28,5 | **28** |
| Цукар | 1 кг | 29 | **29** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **28,5** |
| Алей | 1 л | 60 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 24,3 | **27** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **18** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 70 | **70** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 22 | **24** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | **24** |
| Лімоны | 1кг | 60,2 | **57,1** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 28 | **40** |
| Масла | 1 кг | 75 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **30** |
| Малако | 1 л | 9 | **10** |
| Бульба | вядро | 75 | **50** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **35** |

САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

## Юбілей 90–гадовых



**МАЛАДЗЕЧНА.** 1 ліпеня спаўняецца 12 год, як пачало сваю дзейнасць аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму для састарэлых і інвалідаў. Пры адкрыцці службы сюды прыйшлі працаваць усяго 5 супрацоўнікаў, якія абслугоўвалі 50 састарэлых і інвалідаў.

На сёння ў аддзяленні працуе 31 работнік, яны абслугоўваюць 286 чалавек. Утрыманне адзінокіх састарэлых людзей у дамах–інтэрнатах абыходзіцца значна дзяржаве даражэй, чым у выпадку, калі іх падтрымлівае аддзяленне сацыяльнай дапамогі. Загадчыца аддзялення **Любоў Федунец** гаворыць, што ў доме–інтэрнаце штомесяц на кожнага састарэлага чалавека з бюджэту выдзяляецца 4630 тысяч рублёў, а ў аддзяленні – 370 тысяч.

Аклады ў работнікаў службы вельмі нізкія. Загадчыца, яе намесніца і сацыяльныя работнікі атрымліваюць крыху больш за мільён у месяц.

Напачатку мая ў аддзяленні сацыяльнай дапамогі віншавалі 80– і 90–гадовых састарэлых людзей. Для іх у аддзяленні праводзілася святочная праграма з канцэртам. Падарункі, зробленыя ўласнымі рукамі, юбілярам падносілі дзеці з цэнтра пазашкольнай работы. Адзінокія састарэлыя і інваліды былі задаволеныя віктарынамі, гульнямі, латарэяй; кожнаму выдзелілі грашовую дапамогу. Прыемна, што нават у наш няпросты час дапамаглі ў падрыхтоўцы мерапрыемства прадпрыемствы і арганізацыі – хлебазавод, "Каларыт", "Світанак", "Пінгвін", фонд "Дапамога".

Хаця, як сказала адна з юбілярш, "нам не галоўнае дапамога, асноўнае для нас – зносіны".

***Падрыхтавала Вольга ПАСЛЕД.***

КАМАНДЗІРОЎКА

# СНІД у кожнай вёсцы

## Нас каля 5 тысяч

*Пачатак на 1–й стар.*

Святаслаў Самошкін адзначыў, што дакладна палічыць наркаманаў немагчыма, гэта раўназначна таму, каб адшукваць людзей з блакітнымі вачыма. Самі ж наркаманы гавораць, што іх каля 5 тысяч.

Аднаразовая доза экстракту опіуму каштуе 150 тысяч. Штодзень яна патрабуюцца хаця б тройчы. Таму з кватэры выносіцца і прадаецца ўся маёмасць (наркаманы звычайна непрацаздольныя). Я быў у сям'і, дзе ў кватэры голыя сцены. Маці наркамана пакінула сабе старэнькі ложак, а тэлевізар прыхавала ў суседзяў.

Набыць дозу можна больш чым у трыццаці пунктах.

Чатырнаццаць год таму студэнт з Санкт–Пецярбурга ўпершыню ў Светлагорску выкарыстаў наркотык. Пачалі калоцца яго мясцовыя сябры – моладзь з інтэлігентных сем'яў. Час ад часу ў інфекцыйную бальніцу траплялі адразу па некалькі чалавек з вірусам гепатыту. Заражаліся праз шпрыцы. "Кайф" гатавалі свой. Трымаліся нармаманы групамі па 5–7 чалавек. Калі міліцыя пачала іх ганяць, выгадней стала опіум купляць (каб самім не "свяціцца" і не трапіць за краты). Ці то дзесьці набылі інфіцыраваны наркотык, ці то нехта зачапіў ВІЧ па–за межамі горада – невядома. Аднак пайшла моцная хваля ВІЧ–інфекцый.

Летась 2 інфіцыраваныя наркаманы павесіліся, 3 загінулі ад перадазіроўкі. Адну наркаманку пасадзілі ў турму за «СНІДтэрарызм». У пад'ездах дамоў выманьвала ў падлеткаў грошы. Замест зброі выкарыстоўвала шпрыц. Маўляў, я інфіцыраваная. І вы такімі можаце стаць.

Да наркаманаў сёння ставяцца больш паважліва. Наркотык, лекі (дымедрол узмацняе "кайф") не канфіскуюцца. Падрыхтаваны з іх асяроддзя чацвёра валанцёраў, якім давяраюць. Тыя адсочваюць, каб скарыстаныя шпрыцы знішчаліся. І тым не менш, асноўным пастаўшчыком ВІЧ–інфекцыі застаюцца наркаманы.

Мясцовыя расказваюць, што вясной, калі сыходзіць снег, замест пралесак з зямлі пруць шпрыцы.

## Канцлагер у кватэры

Урач–псіхатэрапеўт **Уладзімір Кабанаў**, які ажыццяўляе праграму "Сям'я супраць СНІДу", сцвярджае, што ў горадзе шмат страху. У дзесятках сем'яў інфіцыраваных поўнасцю ізалявалі – свой пакой, посуд, час наведвання прыбіральні. Адзенне, бялізна мыецца асобна. Такая атмасфера штурхае да самазабойства.

У медустановах да кожнага наведвальніка ставяцца, як да інфіцыраванага. Дарэчы, мясцовы бюджэт аховы здароўя павялічаны на 10 працэнтаў. Жанчынам, якія маюць дыягназ ВІЧ–інфіцыраваных, бясплатна ставяць унутрыматачную спіраль. Ну, а калі тыя ўсё ж нараджаюць (25 выпадкаў), немаўля адразу пераводзяць на штучнае харчаванне. Бо праз малако можа трапіць інфекцыя. Наогул, да 3–гадовага ўзросту немагчыма сказаць, ёсць яна ў арганізме ці не.

А яшчэ медыкі ўсім, хто мае ВІЧ, перыядычна і бясплатна колюць АЗТ (азідатымідзін), які зніжае колькасць віруса ў крыві. Кожная капсула каштуе 1 долар.

Намеснік старшыні гарвыканкома **Віктар Звягін** упэўнены, што ў горадзе панікі няма, калючым дротам Светлагорск не абгароджаны і няма ў тым патрэбы. Усё працуе ў звычайным рэжыме. Аднак цэны на кватэры рэзка знізіліся. Двухпакаёвую палепшанай планіроўкі можна набыць за 6–7 тысяч долараў.

***У камандзіроўцы быў Васіль САВІЦКІ.***

Сёння вірус ВІЧ зарэгістраваны ў 58 гарадах і раёнах краіны. Пасля Светлагорска па сумных паказчыках ідуць Мінск – 208 выпадкаў, Жлобін – 187, Гомель – 47, Бабруйск – 24. У нашым рэгіёне зарэгістраваных выпадкаў ВІЧ няма. Пакуль.

рыцін не выклікае прывыкання і таму можа выкарыстоўвацца хворым дастаткова доўга. З іншага боку, у яго практычна няма пабочнага ўздзеяння. У прыватнасці, не зніжае разумовую і фізічную працаздольнасць, што вельмі важна для сучаснага чалавека. Асабліва для тых, чыя работа звязаная з абслугоўваннем механізмаў, патрабуе вялікай увагі і спалучаецца з павышанай небяспекай. Па нашых дадзеных, кларыцін дапамагае ў 83 выпадках са ста - гэта самы высокі індэкс сярод антыгістамінных прэпаратаў.

Вядома, бываюць выпадкі, калі алергічная рэакцыя наступае раптоўна. Уявіце: вы за рулём машыны, і раптам ваш нос перастаў дыхаць, вочы заслязіліся... Антыгістаміны могуць не прынесці хуткай палёгкі. У гэтай сітуацыі здольны дапамагчы такі прэпарат, як кларыназе. У яго складзе - кларыцін і псеўдаэфедрын, які вельмі хутка ўхіляе набуханне слізістай носа.

Але лепш, зразумела, падобныя сітуацыі папярэджваць, прыняўшы лекі загадзя, да магчымага кантакта з алергенамі. Вось выпадак з маёй практыкі, калі цяжкасць раптоўнай рэакцыі можна было істотна знізіць, прыняўшы загадзя той самы кларыцін. Гэта яскравы прыклад інсектнай алергіі, якую выклікаюць укусы насякомых, перш за ўсё, вос, пчол, мурашоў. Жанчына збірала ўраджай маліны на сваім прысядзібным участку і, натуральна, не ўтрымалася ад спакусы пакаштаваць ягаду. І раптам - адчуванне слабасці і галавакружэнне. Яна спалохана бяжыць да дома - і валіцца, страціўшы свядомасць, ля самага ганка. Стан, у якім аказалася пацярпелая, называецца анфілактычным шокам; ён мог прывесці да гібелі чалавека. На шчасце, была своечасова выкліканая «Хуткая дапамога», і жанчыну ўдалося выратаваць. Калі пачалі разбірацца ў прычынах таго, што адбылося, высветлілі, што ва ўсім вінаваты расліннаедны клоп, які часта сустракаецца ў малінніках. Ён выдзяляе рэчыва з характэрным пахам, які і з'яўляецца мацнейшым алергенам. Жанчына папросту не заўважыла на ягадзе насякомае... Дык вось, варта было ёй, якая раней перанесла бурныя рэакцыі на ўкусы пчол, прыняць перад зборам маліны таблетку кларыціна, - і наступствы не былі б настолькі крытычнымі.

Тут я падышоў да праблемы, рашэннем якой ужо ўсур'ёз займаецца Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі паталогіі і алергалогіі. Мы ствараем сістэму школ, дзе вопытныя ўрачы-алерголагі вучаць пацыентаў спосабам самакантролю, карыстанню прыборамі, якія дазваляць ім адсочваць стан свайго знешняга дыхання, і, адпаведна з гэтымі паказаннямі, прымаць тыя ці іншыя прэпараты. Падрыхтаваным такім чынам хворым у большасці выпадкаў дастаткова кансультацыі ўрача па тэлефоне. Падобныя школы ўжо дзейнічаюць на базе мінскіх 10-й гарадской, абласной і 4-й дзіцячай клінічных бальніц, Інстытута пульманалогіі, Рэспубліканскай бальніцы спелеалячэння ў Салігорску і іншых устаноў аховы здароўя. Так што першыя крокі да таго, кабператварыць хворага ў саюзніка ўрача, зробленыя.

## Індусы ледзь не перайшлі мяжы

АСТРАВЕЦ. Чарговыя індусы, затрыманыя каля вёскі Ласі, давялі лік затрыманых мясцовымі пагранічнікамі ад пачатку года афраазіятаў да 20. Большасць з іх дэпартавалі ў Расію - адкуль прыйшлі, туды і вярнуліся. А на некаторых узбуджаны крымінальныя справы.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

ІМЯ

# "Сапраўдная беларусачка" любіць мяккія цацкі



*МАЛАДЗЕЧНА. Насцечку Жук запрыкмецілі тры гады таму. Шасцігадовая вядучая "Ранішняй зоркі" (традыцыйны конкурс у школе мастацтваў) лёгка трымалася на сцэне, дзіцячай непасрэднасцю выклікала апладысменты залы.*

Праз год там жа была адначасова і вядучай, і выканаўцай. Маці выбрала ёй песню "Цячэ ручай" з рэпертуара "Залатога кальца", пашыла сукенку. З таго моманту пачаўся адлік перамог: першыя месцы на "Ранішняй зорцы", гарадскіх конкурсах "Зоркі Маладзечна", "Прыгажуня–97", дыплом на I фестывалі "Беларусь – мая песня".

Зорачка засвяцілася, і кампазітар **Алена Атрашкевіч** настойліва прапанавала дадаткова атрымаць музычную адукацыю. Сёння дзевяцігадовая Насця Жук вучыцца ў тэатральным класе школы мастацтваў (на выдатна), па класе саксафона ў музычнай школе пры музвучылішчы, працуе з вілейскай студыяй "Экспромт" пад кіраўніцтвам **Алега Зайцава**.

– Каб нешта не ўпусціць, я спецыяльна купіла штотыднёвік, – гаворыць яе маці **Таццяна Георгіеўна**, – дзень распісаны па хвілінах. І ў дачкі, і ў мяне.

Да ўдзелу ў тэлевізійным конкурсе юных талентаў "Тэлебом" маці з дачкой рыхтавалі тры песні: рускую "Я чайничала", беларускую "Жураўліная чарада" (**Алена Атрашкевіч – Васіль Жуковіч**) і на французскай мове "Летні дожджык". Для кожнай шылі касцюмы. У ход пайшлі шторы, абрусы. "Сапраўдная беларусачка" (так Насцю назваў **Міхаіл Фінберг**) дала ў сталіцы некалькі канцэртаў. Праўда, пакуль не сольных – удзел у фестывалі "Спяваем з аркестрам", у прэзідэнцкім канцэрце, што прайшоў у тэатры оперы і балета. Таксама "Жураўліная чарада" прагучыць на фестывалі "Маладзечна–98".

Насця глядзіць па тэлебачанні "дарослыя" канцэрты, казкі, мульцікі. Але асабліва любіць мяккя цацкі. У яе іх 13. З кожнай па чарзе засынае. Дзяўчынка шкадуе, што не хапае часу гуляць з дзецьмі на вуліцы. Праўда, летам запланавана падарожжа на хутар (25 км ад горада). Дарэчы, на хутары Насця нарадзілася і жыла да 4 гадоў.

Яе маці, зразумела, хоча даць дачцэ як мага больш. Праўда, паездкі нават у сталіцу добра б'юць па сямейным бюджэце. Толькі адна новая фанаграма каштуе 30–50 долараў. Можа, хто хоча прыняць удзел у лёсе зорачкі Насцечкі?

Апошні канцэрт студыі "Экспромт", які адзначаў сваё дзевяцігоддзе, дзень у дзень супаў з дзевяцігоддзем Насці. Пад воплеск залы зорачка нашага рэгіёна пакідала сцэну, несучы ахапку кветак і мяккія цацкі-падарункі удзячных гледачоў - жыхароў Вілейкі і Маладзечна.

*Васіль САВІЦКІ.*

*Падчас выступленняў.*

НА ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА

СЕКТАР СПОРТУ

# Напярэдзе сёмы

Белшына (Бабруйск) - Маладзечна 1:0. **Турчыновіч** (9).

Як расказаў трэнер **Васіль Віскушэнка**, Андрэй Турчыновіч забіў свой гол трапным ударам у левы ад **Станіслава Цішчанкі** вугал. Вінаваціць галкіпера падстаў, здаецца, няма. "Белшына" гуляла добра, але і маладзечанцы, асабліва ў другім тайме, дзейнічалі не горш. Настрой перад дамашняй сустрэчай са слонімскім "Камунальнікам" баявы.

Адбыліся некаторыя змены ў складзе. Не падышлі камандзе **ўкраінцы Віктар Ледаўскіх і Аляксандр Гукайла**. Мінскае "Дынама" выкупіла ў расіянаў **Аляксандра Вяжэвіча** (які ўжо правёў некалькі матчаў), а ў якасці партнёрскай дапамогі здало ў арэнду "Забудове" (для "Маладзечна" тэрмін дазаявак скончыўся) добра нам вядомага



**Сяргея Дзямідчыка**, а таксама **Аляксандра Астрыкава**, старэйшы брат якога выступае за алімпійскую зборную краіны. Дарэчы, на яе матч з літоўцамі шостага чэрвеня выбраны **Мікіта Малы**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Фотаапарат, пара красовак, майкі і дыпломы

***З такім набыткам вярнуліся чацвёра маладзечанцаў, што выступалі на чарговым Маскоўскім Міжнародным Марафоне Міру.***

У ім бралі ўдзел прадстаўнікі 14 краін – у тым ліку Германіі і Югаславіі. Пятнаццатай у абсалютным заліку з 60 спартсменак стала **Галіна Кавалёва**. Трэцімі ў сваіх узроставых групах былі **Святлана Кошалева** (35-39 гадоў) і **Таццяна Андронава** (45-49, паказала лепшы асабісты вынік). У сярэдзіне 350 стаераў фінішаваў **Аляксандр Кавалёў**, які ўпершыню выступіў тут каля дзесяці гадоў таму.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Лысая пасля дажджу

**Трактар (Мінск) - Забудова 0:0.**

Склад: Панамароў, Нядзелька, Івашкевіч, Капленка, Карыцька, Д. Ваўчок (Шэк), Гулевіч, Касцюкевіч, Дараховіч, А. Макей, В. Ваўчок.

Трэнер **Андрэй Найдзіч гаворыць**, што матч праходзіў на стадыёне акадэміі фізвыхавання і спорту. Поле там аказалася "лысае" ды яшчэ прайшоў дождж. Гэта быў хутчэй не футбол, а спаборніцтвы па замешванні гразі. Магла перамагчы як адна, так і другая каманда, а скончылася ўсё заканамерна, унічыю.

**Нёман (Стоўбцы) - Смаргонь 4:3 (1:2).**

Галы: 0:1 **Дзмітрый Максіменка** (10), 0:2 **Рыгор Гакуць** (17)...,4:3 **Алег Чарнуха** (80). Склад: Васіловіч, Макей (Кошаль), Недавес, Шыкавец, Васілеўскі, Гакуць (Шабунёў), Юркевіч, Чарнуха, Ланько, Максіменка (Карабінскі), Таран.

Галоўны трэнер **Сяргей Новік** выказаўся шчыра і прама: "Нас "сплавілі". Павялі два мячы, а потым атрымалі чатыры ў свае вароты. Мінскі арбітр **Уладзімір Місючэнка** даваў забіваць сапернікам пасля "прамой нагі", пасля афсайду. У апошнія хвіліны, калі выдаліў стаўбчаніна, што давала нам магчымасць зраўняць лік, проста пасадзіў гульню "на свісткі". Падаваць пратэст безнадзейна, хаця вусна мы папрасілі, каб хаця б у далейшым такое не паўтарылася".

Сапраўды, матч атрымаўся даволі скандальны. Нашы землякі так і не набралі свае першыя ачкі. Адзначым: на поле ў складзе стаўшай фарм-клубам "Смаргоні" выйшлі футбалісты жодзінскага "Тарпеда" **Чарнуха і Уладзімір Таран**.

*ЧЭМПІЯНАТ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ.*

Белыя Росы (Мінскі раён) - Прадпрымальнік 2:1, ААТ "Рудзенск" (Пухавіцкі раён) - Іслач 7:0.

*Інфармацыю падрыхтаваў **Ігар Распопін** ("Спортивная панорама").*

АМАТАРСКІ СПОРТ

## Адсвяткавалі

***У Дзень фізкультурніка амаль ва ўсіх райцэнтрах рэгіёна прайшлі спартыўныя святы. Толькі Мядзел замяніў пасёлак Нарач. Таксама былі імпрэзы ў Маладзечанскім (Цюрлі, Лебедзева, Чысць) і Вілейскім (Ілля) раёнах. На іх збіраліся сотні чалавек, прычым не толькі дзяцей, для якіх былі запланаваныя лёгкаатлетычныя спаборніцтвы. Найбольш папулярным сярод дарослых аказаліся міні-футбол, гіравы спорт, армрэслінг і стральба.***

На жаль, у Ашмянах няма належнага стадыёна, а астраўчане з-за недахопу грошай абмежавалі свята школьнымі дварамі і спартыўнымі пляцоўкамі. Не знайшлі яны і некалькі мільёнаў рублёў, каб накіраваць у Мінск на чэмпіянат Еўропы па боксу свайго спецыяліста **Аляксея Маргуша**, якога, дарэчы, туды персанальна запрашалі.

А вось у Маладзечне ўшанавалі трыццаць восем ветэранаў, якім выдзелілі і грашовую дапамогу.

Напрыканцы мая Гродна стане цэнтрам спаборніцтваў сярод непрафесіяналаў. Пройдзе абласная спартакіяда працоўных і рэспубліканскі фінал па мнагаборстве "Здароўе". Будзе там нямала прадстаўнікоў рэгіёна.

Вось цікавыя турніры, што прайшлі ў нас за апошнія тыдні.

Першы міжнародны марафон Крывічы - Мядзел. Удзельнічалі 33 бегуны. Лепшым быў барысаўчанін **Уладзімір Дакука**, а з мясцовых вызначыўся журналіст **Аляксандр Быкаў**, які стаў трэцім у сваёй узроставай групе.

Па тэрыторыі Маладзечаншчыны прайшоў конна-спартыўны прабег на 50 км. Гэта вельмі рэдкія спаборніцтвы; перамагае той, чый конь (усяго ўдзельнічала 14) стоміцца менш за іншых. Мацнейшай камандай сталі прадстаўнікі мясцовых Палачанаў.

На Іслачы ля Ракава гледачы захапляліся тэхнікай воднага турызму на байдарках і катамаранах у выкананні 142 спартсменаў. Перамагалі ў асноўным госці з Барысава і Мінска.

На Вілейшчыне адпрацоўвалася тэхніка горна-пешаходнага турызму. Першымі сталі гаспадары, далей салігорцы, мінчане і маладзечанцы.

29 гарадоў і раёнаў сталічнай вобласці накіравалі па тройцы самых спрытных міліцыянераў на лёгкаатлетычны крос у Маладзечна. Не было роўных прадстаўнікам Мінскага раёна і Валожына.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Поўны камплект

**МІНСК**. Каратысты вілейскага клуба "Дзяржынец" з адкрытага чэмпіянату Беларусі прывезлі поўны камплект медалёў. У сталіцу з'ехаліся мацнейшыя спартсмены Малдовы, Грузіі, Расіі, эстонскага клуба "Будо". Вілейчане Аляксандр Майстровіч, Алена Пучкіна, Ягор Кузьмічоў у сваіх вагавых катэгорыях занялі адпаведна I, II, III месцы.

Як сказаў прэзідэнт Беларускай асацыяцыі каратэ **Віктар Грыневіч**, нават абласныя гарады не прадстаўленыя асобнай камандай. А вілейчане і камандай удзельнічалі, і вынікі паказалі.

Трэніруюць каратыстаў **Аляксандр Паліўка і Сяргей Купрыевіч**.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

**АНОНС**

**22.05** Маладзечна (18.00, 16 месца, +0=0-2 0-3) - Камунальнік (Слонім, 15). **23.05** Смаргонь (16.00, 13) - АФВіС-РШВСМ (Мінск, 1). Забудова (16.00, 9) - Нёман (Стоўбцы, 10), ААТ "Рудзенск" (Пухавіцкі раён, 4) - Прадпрымальнік (10), Аўтазаводзец (Жодзіна, 9) - Іслач (12).

СМАЧНА ЕСЦІ



## Салата местачковая

***Спатрэбяцца маленькі качан свежай капусты, невялічкія бурачкі і штонішто іншае.***

Бурачкі лепш зварыць, калі ж вы прыхільнік сырой ежы, абмяжуйцеся 1 бурачком. Патрэбна сырая морква, часнок і нятлустае адваранае мяса. Соль і маянез па густу. Мяса і часнок дробна пакрышыць, дадаць перацертую на дробнай тарцы гародніну (капусту пакрышыце), пасаліце і запраўце маянезам.

**Капуста - 1 качан, буракі - 2-3 шт., морква - 1 шт., часнок - 3-4 зубчыкі, мяса - 200г, маянез і соль па густу**.

Смачна есці!

*Наташа ГАМОЛКА.*

ПАДУМАЙ ПРА СЯБЕ

## Хай заўжды будуць зубы!

### (працяг- зубныя пасты)

**ELGYDIUM. Цана:** $6. **Вытворца:** Block Drug Company Inc., Германія. **Разнавіднасці:** лекавая зубная паста Elgidium і лекавы гель Elgyfluor для адчувальных зубоў. **Форма выпуску:** цюбік 75 мл. **Прынцып дзеяння**: лекавая паста Elgidium для дзяснаў і зубоў, якая ўтрымлівае хлоргексідзін, аказвае моцнае супрацьмікробнае дзеянне. Яна рэкамендуецца пры гінгевітах, парадонтапатыях і для прафілактыкі карыесу. Найівялікшы эфект дасягаецца пры прымяненні не менш двух разоў на дзень. Лекавы гель Elgifluor рэкамендуецца для адчувальных зубоў. Вельмі далікатна чысціць зубы, а таксама абараняе эмаль ад знешніх уздзеянняў.

Дбай пра сябе!

*Аліна.*

ГАСПАДАРУ

## Вы купляеце бензапілу

Сфармулюйце дакладна патрабаванні да пілы. Выберыце тып: бытавы (аматарскі) або прафесійны. Розніца паміж імі вызначаецца не толькі магутнасцю, але і надзейнасцю і дапушчальным перыядам эксплуатацыі. Бытавыя мадэлі разлічаны ў сярэднім на выкарыстанне да 20 гадзін у месяц (каля 40 мінут у дзень), а іх, як правіла, невысокая магутнасць кампенсуецца малой вагой і зручнасцю ў карыстанні. Галоўная асаблівасць прафесійнага інструмента - магчымасць работы да 8 гадзін без перапынку. Такія пілы вырабляюцца з больш трывалых матэрыялаў, а рэсурс вагаецца ў межах 1300 - 2500 мотагадзін (у бытавых - у 2-3 разы меншы). Наступны крок - аналіз характарыстык бензапілы.

**Антывібрацыйная сістэма.** Існаванне гэтай сістэмы дэкларуецца практычна ў кожнай мадэлі пілы, аднак яе якасць можа быць самай рознай. Калі вы думаеце працаваць з бензапілой зрэдку і выбралі бытавую мадэль, то эфектыўнасць абароны ад вібрацыі не больш чым фактар дадатковага камфорту. Але для прафесійнай работы якасць антывібрацыйнай сістэмы павінна стаць адным з самых важных параметраў, які вызначае выбар. Вы не хочаце разам з прафесіяй лесаруба набыць яшчэ і прафесійныя хваробы? Тады звярніце ўвагу на антывібрацыйную сістэму. Яшчэ лепш папрасіць пры пакупцы запусціць бензапілу і самому патрымаць яе ў руках.

У наступнай гаворцы мы абмяркуем праблемы магутнасці і вагі пілы.

*Віктар СУБАЧ.*

## ГАРАСКОП 18 – 24 МАЯ

**АВЕН (21.03- 20.04)** Важны дзень **29**. Даведаешся больш аб падатковых справах, ліцэнзіях і дазволах. 29 мая можа здарыцца што заўгодна.

**ЦЯЛЕЦ (21.04-20.05)** Добрыя дні **25**, **26**. Важны дзень **28**. Асаблівае значэнне будуць мець знешні выгляд, асабісты магнетызм, сексуальнае прыцягненне.

**БЛІЗНЯТЫ (21.05-21.06)** Добрыя дні **25-28**. Важны дзень **27**. Можаш разлічваць на поспех на любоўным фронце. Плён прынясе работа на дачным участку. Асцерагайся плётак суседзяў.

**РАК (22.06- 22-07)** Добрыя дні **27 - 30**. Важны дзень **26**. Набяруць вагу паэтычныя пачуцці, сканцэнтруешся на дамашніх клопатах. Калі ты не стварыў сям'ю, то тут магчымы самыя радыкальныя перамены.

**ЛЕЎ (23.07- 22.08)** Добрыя дні **30**, **31**. Важны дзень **25**. Павялічваецца значэнне прафесійнай кар 'еры, твайго грамадскага становішча.

**ДЗЕВА (23.08- 22.09)** Каля **25** мая зможаш добра рэалізаваць прафесійныя дасягненні.

**ШАЛІ (23.09- 22.10)** **28** мая стане зразумелым вынік шматлікіх планаў на далёкую перспектыву.

**СКАРПІЁН (23.10- 21.11)** Кепскі дзень **25**. Важны дзень **31**. Змены дома.

**СТРАЛЕЦ (22.11-21.12)** Кепскія дні **25 - 27**. Важны дзень **30**. Будзе добра, калі прааналізуеш сваю працу. Магчымыя нейкія перамены на рабочым месцы.

**КАЗЯРОГ (22.12- 19.01)** Кепскія дні **27 - 29**. Важны дзень **29**. Клопат аб здароўі, дыета, прафілактыка захворванняў, праверка абавязкаў перад сям'ёй.

**ВАДАЛЕЙ (20.01- 18.02)** Кепскія дні **29 - 31**. Важны дзень **28**. Будзеш мець магчымасць ведаць, што робіцца ў думках асобы, якую кахаеш. Дзякуючы гэтаму зможаш паўплываць на сябе, ацэньваючы духоўную і фізічную вартасць сваёй асобы.

**РЫБЫ (19.02- 20.03)** Кепскія дні **27 - 30**. Важны дзень **26**. Можаш разлічваць на падтрымку у эмацыянальнай сферы, каханні, рамантычных прыгодах.

